# ДЫЯРУШ

Нумар Першы, 1997 год

ВОРГАН ЗБС ЛУ **Лінгвістычнага Унівэрсытэта**

**Прывітаньне, шаноўны чытач! Дыяруш ЛУ -- гэта дзёньнік жыцьця Лінгвістычнага Унівэрсытэта, яго факультэтаў, катэдраў, інтэрнатаў і канешне ж студэнтаў.**
**Дыяруш ёсьць выданьне незалежнае, у якім друкуюцца аўтары са сваёй асабістай пазіцыяй і думкамі.**
**Улічваючы, што студэнцкі рух у посткамуністычнай Беларусі слабаразвіты, заснавальнікам Дыяруша зьяўляецца Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў, а расповед пра дзейнасьць студэнцкіх і маладзёвых арганізацыяў будзе адным з накірункаў.**
**Іншы накірунак -- гэта знаёмствы з падобнымі эўрапейскімі маладзёвымі структурамі і выданьнямі.**
**З самага пачатку, выданьне Дыяруша задумана як экспэрымэнтальнае, і будучыню нашага дзёньніка, аднаго з нешматлікіх, вырашыце вы, нашы чытачы.**

*Лануа Дэво*
*заснавальнік Дыяруша*

**Прывітаньне, шаноўны студэнт. Ты трымаеш у руках першы (комам?) нумар "Дыяруша Лінгвістычнага Унівэрсытэту". Спадзяемся, тут ты зможаш ня толькі знайсьці цікавую і патрэбную інфармацыю, але й выпрабаваць свой "пісьменьніцкі" талент. У цябе праблемы з нейкім выкладчыкам? Ты сутыкнуўся з несправядлівасьцю з боку унівэрсытэцкай адміністрацыі? Ты хочаш даць прыватную аб'яву, каб набыць перад сэсыяй канспэкт? Для цябе гэтае выданьне можа стаць тым сродкам, з дапамогаю якога ты зможаш падзяліцца любой інфармацыяй зь іншымі ін'язаўцамі. Мы спадзяемся на зваротную сувязь з табою.**

*Дзімка з Гухавічаў*
*заснавальнік Дыяруша*



## ВІНШАВАНЬНІ З РАЗЬМЕРКАВАНЬНЕМ

Шаноўны студэнт, віншуем цябе! Вырашана праблема твайго працаўладкаваньня. Так-так, не здзіўляйся. Пасьля заканчэньня вучобы, дзякуючы клапатлівасьці сёньнішніх улад, ты паедзеш у школу, хутчэй за ўсё вясковую, дзе будзеш "зашыбаць", у лепшым выпадку, 40 даляраў у месяц. Праўда, калі ты згодзішся працаваць у Чарнобыльскай зоне, то атрымаеш да свайго настаўніцкага заробку яшчэ колькі тысячаў рублёў. Завядзеш курак, парсючка — мо неяк і выцягнеш. І гэта не важна, хочаш ты ці не. У цябе ёсьць доўг. Дарагі студэнт! Ты даўжнік перад дзяржавай. Ты думаеш, што атрымліваеш адукацыю на грошы, якія ў якасьці падаткаў плацяць твае бацькі? Ты жорстка памыляешся, як казаў габрэй Давід у "Камедыі" Марашэўскага. Гэта не бацькі, а добрыя дзядзькі, якія прыдумалі прымусовае разьмяркаваньне, асабіста са сваіх кішэняў аплочваюць табе, студэнт, тваю вучобу. Карацей кажучы: "Arbeiten!"

У Вялікабрытаніі настаўнік пачатковых клясаў атрымлівае, калі перавесьці ў наш эквівалент, каля 30 мільёнаў рублёў. Гэта пры тым, што кошты беларускія ўпэўнена рушаць да сусьветных. Можа, каб зрабіць такія заробкі ў нас, то і не трэба было б заганяць цябе ў школу? Сам бы пайшоў. Не, у нас прыярытэты іншыя. Так, напрыклад, месячнага заробку спецназаўца хапіла б, каб забясьпечыць 4-ом выкладчыкам аклад у 100 даляраў. Але яны не ўмеюць галавой разьбіваць цэглу і раўсьці "кій-я!". Лепш за ўсё сагнаць студэнтаў у кучу ды пагнаць на адпрацоўку за капейкі. Нічога — ня ўбудзе.

Аднак мне здаецца, што ўсё ж такі ўбудзе, дарагі калега. Па-першае, мы ў сваёй большасьці людзі пры сваім розуме і самі ў стане вызначыць, куды пайсьці працаваць. Па-другое, паступаючы ў Лінгвістычны ўнівэрсытэт, ніякіх кантрактаў аб адпрацоўцы ты не падпісваў, а Канстытуцыя дае табе права на вольны выбар працы. Па-трэцяе, калі настаўнікі будуць атрымліваць дастойныя заробкі, то... Гэта ўсё ясныя для кожнага чалавека аксіёмы і іх ня трэба пералічваць.

Што ж рабіць? Ня горбіся, выпрастайся, узьнімі галаву, паўтары некалькі разоў сабе: " Я — нармальны чалавек" і з усім сваім максымалісцка-юнацкім запалам скажы "НЕ!" Ды так — каб пачулі наверсе.

Рэдакцыя



# Гісторыя стварэньня "Прамога Дзеяньня" (ПД) у МДзЛУ

Кожны, узяўшыся пісаць гісторыю, дакладна нясе на сабе абавязкі. Такі факт як стварэньне новага маладзёвага арганізму на Беларусі ёсьць рэч зусім незвычайная, а тым больш стварэньне "уплывовай маладзёвай арганізацыі", ды яшчэ пад кантролем і з дапамогаю прэзядзента Лукашэнкі пачало напрагаць розумы ня толькі студэнцтва, але ж і кіраўніцтва ВНУ.



Адзін з першых крокаў, які зрабіла ПД – гэта выпуск улёткі. Першае пытаньне, якое задае ПД:"Пачаму сяйчас уся ***нармальная*** маладзёж уступае ў ПД ?". Застаецца толькі зазначыць, што, калі вы яшчэ не ўступілі ў ПД, вы зьяўляецеся ***ненармальнай*** моладзьдзю.

Далей я хацеў бы прадставіць вашай увазе тыя мэты, якія ставіць перад сабою ПД:

– "сваіх" у абіду не даваць;

–інтарэсы моладзі абараняць;

– праціўнікаў беспашчадна падаўляць.

Рыфмуецца, рыфмуецца і нагадвае знаёмую рэчоўку. Мы канешне не ставім пад сумнеў першыя два пункты, асабліва, гэта падаецца натуральным, што такія сябры ПД, як сын Лукашэнкі ці Ціцянкова (улічваючы другія і трэція бюджэты апошняга) зробяць усё магчымае, каб калгасьнік Вася ці даярка Фёкла маглі з вышэйзгаданымі ганаровымі сябрамі кіраўніцтва ПД вырашаць пытаньні маладзёвай палітыцы РБ і не толькі яе. Я думаю, шаноўныя чытачы ня маюць нават аніякіх пытаньняў і сумневаў наконт рэальнасьці выкананьня гэтых двух пунктаў.

Але ж што датычыцца трэцяга пункту, вы, мае шаноўныя калегі, перагнулі. Вас жа гэтыя "гнюсныя нацыяналісты" аб'явяць тэрарыстамі, крыміналізаванай групоўкай моладзі, якія ставяць пад мэту дыскрэдытацыю чэснага імя Аляксандра Грыгорыча.

Зьяўленьне "азнаямляльнай улёткі" плюс выказваньні Грыгорыча па тэлебачаньні і радыё, плюс камэнтары ў незалежных мас-мэдыя, і пра арганізацыю, якая ставіць перад сабою мэту падтрымкі палітыкі прэзыдэнта, сталі казаць усе.

У адной з дакладных запісак Грыгорыча можна было даведацца, што ПД будзе аказвацца адмысловая дапамога з боку дзяржаўных структураў на пачатковых этапах фармаваньня й арганізацыі. Вельмі чакалі зьяўленьня такой структуры, дакладней маладзёвай арганізацыі, і ў нашым унівэрсытэце, чакалі, таму што ведалі, што будуць людзі, знойдуцца, якія пажадаюць ісьці шляхамі ~~ленінізма~~-сталінізма-лукашызма. Такія людзі, для якіх першае і галоўнае – кар'ера, заўсёды былі, ёсьць і будуць. Гэтыя маладыя людзі зрабілі свой выбар, яны выбралі аўтарытарны рэжым Лукашэнкі. Пакуль будзе існаваць рэжым – будуць існаваць і яны, менавіта існаваць, а не жыць. Таму што жыць – гэта не баяцца, не баяцца за заўтрашні дзень. А тое, што аўтарытарызм раней ці пазьней скончыцца, у гэтым я не сумняюся.

У дзень, калі было пасмурна і йшоў дождж, па ўнівэрсытэту прайшла чутка, што ПД прыйшла да рэктара, паказала нейкую паперку, патрабавала памяшканьне і ў выніку яго атрамала. Было гэта напярэдадні дня Сьвятога Валянціна і гэтая навіна абляцела ўсе калідоры МДзЛУ. Адмоўна аднесьліся да стварэньня такой арганізацыі ва ўнівeрсытэце ня толькі студэнты, але ж і выкладчыкі. Самыя простыя мяккія выказваньні, якія гучалі: "Ды гэта ж фашысты маладыя...", "Камсамол у выглядзе Лукамола вяртаецца".

У той жа час пачалася

пачатковая праца па прыцягнені студэнтаў у ПД і фармаваньні яе па факультэтах. Пакуль ня ўзьнік першы бар'ер. 14 лютага, у дзень Сьвятога Валянціна, моладзь для якой гэты дзень быў сапраўдным сьвятам, вырашыла далучыцца да астатняй Эўропы, каб адзначыць гэтае сьвята закаханых. Маладыя хлопцы і дзяўчаты зрабілі сьвяточнае шэсьце, якое не змаглі зразумець ні сам Грыгорыч, ні ворганы, якія накіравалі на моладзь унутраныя войскі і АМАП. Таму што гэта было для іх нешта чужое, што падкрэслівае права адпачываць толькі ў вольнай краіне. Кажуць, Грыгорыч быў моцна закаханы, і была ў яго страсьць. Гэтая страсьць застаецца ў яго і дагэтуль, страсьць да ўлады, якую проста так не спыніць, не стрымаць...

Падчас акцыі моладзь уручыла прадстаўнікам эўрапейскіх амбасадаў пэтыцыі, у якіх выказвала сваю занепакоенасьць сытуацыяй, якая склалася на Беларусі. Шмат удзельнікаў акцыі не па сваёй волі мусілі працягваць гэты сьвяточны дзень у РАУСах, а пасьля некаторыя атрымалі непамерна вялікія штрафы.

У гэты самы дзень Сьвятога Валентына нашыя героі – МА ПД у адказ "інакадумаючай" моладзі вырашылі таксама прызнацца ў сваім каханьні. Чамусьці гэтым аб'ектам стаў Лукашэнка, а пасьля гэтага акрамя як вычварэнцамі прадстаўнікоў ПД назваць не прадстаўляецца магчымым. На акцыю прыйшла моладзь, якую выклікалі па сьпісах дэканатаў і якую вызвалілі ад заняткаў. Некаторыя нават пасьля акцыі з партрэтамі Лукашэнкі, потым далучаліся і да шэсьця моладзі.

На наступны дзень ва ўнівэрсытэце сталі вядомыя некаторыя факты сьвяткаваньня ПД МДзЛУ свайго каханьня да прэзыдэнта. Рэктар выпадкова зайшла ў памяшканьне выдзеленае ПД і ўбачыла малюнак з агітплякату савецкіх часоў: "Моладзь і пъянства". На наступны дзень у ПД МДзЛУ ужо не было памяшканьня і старшыні, якому аб'явілі строгую вымову. Так слаўна пачалі – і такі фінал. Раней мы думалі, такое бывае толькі ў кіно, але ж ня ўсё так проста, як здавалася на першы погляд. ПД ня толькі не рэтыравалася, але ж наадварот пачала дзейнічаць з большай нахабнасьцю.

Правільна, спачатку трэба, каб былі структуры на кожным факультэце. І пайшлі тады маладыя студэнты з прапановамі аб ўступленьні па розным паверхам, калідорам, карпусам. Але ж, каб неяк прыцягнуць студэнтаў, трэба іх неяк зацікавіць. А як ? На ўсіх зразумела пэйджэраў ня хопіць, а выходзіць на вуліцу і праяўляць сваё каханьне да "усенародна абранага" "прадстаўніка беларускага народа" жадаючых ня шмат. Вось і прыходзіцца ламаць галаву лідарам ПД, як пазбавіцца той блакады ў міжнароднай сфэры, якую потам зарабіў Лукашэнка і адначасова прапаноўвае пашыраць у той жа сфэры кантакты. Канешне, ёсьць усход, – адкажуць прадстаўнікі ПД, і будуць правы. Але ж мангольская ці адна з славянскіх – выкладаюцца не на такім узроўні як нямецкая ці ангельская.

На дадзены момант прадстаўнікі ПД маюць астранамічныя лічбы сваіх прыхільнікаў у нашым унівэрсытэце. Нешта не верыца. Моладзь з Лінгвістычнага Ўнівэрсытэта пераважна можна пабачыць на мітынгах апазыцыі, чым ля пікетаў Амэрыканьскай амбасады.

Як бы то не было, але ж ПД Лінгвістычнага Ўнівэрсытэту дыскрыдытавала сабе. Можна ўявіць сабе, што здарылася ў астатніх унівэрсытэтах. Зараз трэба лічыць, што прэзыдэнцкая акцыя па стварэньні ЛукаМола на базе ПД правалілася. Наступны этап – Беларускі Патрыятычны Саюз Моладзі, стварэньне якога адбудзецца ў траўні месяцы.

**Лануа Дэво**

**P.S.** Калі быў змакетаваны гэты нумар Дыяруша былі вядомыя некаторыя падрабязнасьці разьвіцьця далейшых падзеяў.

Напрыклад, Выканаўчы Савет ПД выказаў недавер Севе Янчэўскаму (інкрымінаваў быццам бы супрацоўніцтва з Задзіночаньнем Беларускіх Студэнтаў і інш.) і выключыў яго са складу арганізацыі ПД, у тым ліку з пасады старшыні. У свой бок Сева абвінаваціў сваіх былых паплечнікаў з ПД у сувязі з Славянскім Саборам "Белая Русь" і выключыў іх са складу аргкамітэта па правядзеньню ўстаноўчага сходу БПСМ. Пытаньне для высокіх інтэлектуалаў: "Каго прадстаўляў Сева Янчэўскі на з'езде БПСМ, калі ён ужо быў выключаны з ПД ?"

У Менску прайшоў з'езд БПСМ. Шмат хто пасьля яго правядзеньня задаваў сабе пытаньні, чаму быў невыбраны на пасаду першага старшыні БПСМ Аляксандр Лукашэнка, ён жа прэзыдэнт Нацыянальнага Алімпійскага Камітэту, ён жа Прэзыдэнт...

Усё ж такі чаму быць -- таго не мінаваць. Аляксандр Грыгорыч стрымаў сваё слова і падзяліўся абяцанаю "уладаю". Вядома, што некаторыя студэнты і Лінгвістычнага Унівэрсытэту ўвайшлі ў кіраўнічы склад БПСМ, але падрабязныя навіны чакайце ў наступным нумары.

## ХАДЗІЦЕ НА ЛЕКЦЫІ, БРАТЫ

Бяспрэчна, што кожны з нас хаця б адзін раз у сваім студэнцкім жыцьці быў на лекцыі, прагна ўважаючы выслоўям ін'язаўскіх аракулаў. Асабіста я вось ужо пяты год з задавальненьнем прыходжу паслухаць мацёрых лектараў-прафэсараў, якіх усе вы "в лицо может и знаете, а по фамилии, тем более, не знаете", як выказаўся адзін з іх, дацэнт Л. "За 25 лет работы было уже столько студентов, что не родился ещё такой студент, чтобы я не был заинтересован, чтобы он родился", — шчыра паведаміў ён нам, тады яшчэ першакурсьнікам. І нічога не заставалася рабіць, як выслухваць байкі пра тое, што жылі-былі дзесьці "немцы, французы и прочие шведы", пра тое, што калі "70 тысяч округлить до 11%, то выходит, что не было белорусов; было несколько процентов, которые можно отбросить; короче, не было белорусов". І можаце, "хоть жизнь с убийством кончить", але ў адзін цудоўны дзень "вся Прибалтика стала свободной, за исключением Украины". Магчыма, менавіта таму продкі нашыя "за палку работали, за трудодень; поставят эту палочку пустую, да и ту придут партизаны и заберут..." Ну як, здагадалися, аб кім ідзе размова? Ну як жа! Ён жа не стамляўся паўтараць сваю каронную фразу: "У меня была одна студентка, так она все пять лет имела только у меня..." А на зьдзіўленыя погляды аўдыторыі адказ быў наступным: "Именно об этом я и имею в виду". Убачыўшы яшчэ больш перакошаныя ад неразуменьня і



страху твары студэнтак, ён пачынаў размаўляць сам з сабою: "Кому мне это надо?! Кому ты это мне объясняеш?!" І, нарэшце, "приватизонные чеки" "злысных врагов" і "Троцкого, стибрившего чью-то идею," заканчваў званок.

Размаітая студэнцкая маса перакачоўвала ў іншую аўдыторыю, дзе новы дзядзя філасофстваваў аб тым, што "все люди термиты и муравьи. Мы все делаем счастливо, радостно. Мы - Павлики Морозовы". А жывем мы "плохо только потому, что мы не марксисты". "Я, — неяк сказаў ён, — могу столько химии в землю залпом дать, что у меня марципаны расти будут". Ну а нам застаецца "растить на этой земле быков, зубров, лягушек — кого угодно!" І паспрабуйце перабдытаць на экзамене "божий дар с яичницой", — гамон. Калегі ж паважанага прафесара і ўвогуле ўражваюць эрудыцыяй і кемлівасьцю.

Памятаю, спаў я неяк на лекцыі, як раптам разбудзіў мяне лямант. "Фаллос!!!" — выгукнула цёця, што стаяла за кафедрай і нагадвала мне сялянку з вядомай кампазыцыі скульптара Мухінай. Кожны другі падумаў: "Ці не я?" А ці ведаеце вы, што "иконы — это изображения богов на досках?" Не? І пра "тазобедренные повязки" не чулі? І ніколі ня бачылі з вакон ін'яза "русских, чёрных спаниелей в яблоках"? Хадзіце на лекцыі, браты. І ў заканчэньне, як любіць зазначыць найпапулярнейшы герой ін'язаўскіх туалетных графіці, "Мавр сделал своё дело, Мавр садится на велосипед, разворачивается и уезжает".

**Дэмп Тоўсташый**

# *БАСОВІШЧА – ФЭСТЫВАЛЬ БЕЛАРУСКАЕ МУЗЫКІ Ў ПОЛЬШЧЫ*

Ці чуў ты, шаноўны студэнт, пра фэстываль беларускага року "Басовішча", што ўжо колькі год запар адбываецца ў Польшчы, непадалёк ад Беластоку? Не? Ну, то я табе раскажу, што гэта такое. Па-перш, гэта ўтульны лес, свежае паветра і добрае надвор'е. Па-другое, гэта п'яныя ў зюзю польскія панкі, якія ўжо з самае раніцы і бацькі роднага не пазнаюць, але ўсё роўна жлукцяць падазронага выгляду "RUM". Калі вы над сваім намётам вывесіце бел-чырвона-белы сьцяг, то адзін зь іх падыдзе да вас і, паказваючы двума пальцамі знак "вікторыя", пракрычыць "Жыы-ве Бее-лаа-русь!"

Потым — гэта смакотнае беластоцкае піва "DOJLIDY", якое прадаецца халодным паўсюль і ў патрэбнай колькасьці (адзін добры кубак каштуе 2/3 даляра, а яшчэ ў меню недарагія чыпсы з папрыкай і кілбаскі з гарчыцай).

Пасьля - гэта твае новыя знаёмыя палякі, якія не могуць паверыць, што такая файная гарэлка, як "Два буслы", каштуе ў Беларусі толькі крыху болей за даляр. А яшчэ пазьней — гэта вясковая крама, дзе самая танная і гідкая гарэлка каштуе каля 7 даляраў! Усё гэта павольна пераходзіць у



скрыготлівы гук канцэрта, дзе нейкі гурт з Любліна на працягу ўсёй песьні галосіць "Жыве Беларусь!", а пад лірычныя словы мясцовага гурта "Кардон" "А мая Айчына-маці травой зарастае" палякі ў парыве душэўным радзіраюць на сабе вопратку. А потым яшчэ шмат-шмат музыкі, ізноў піва, танцы-пога... А

*працяг на ст. 7*

# Легенды і міфы старое “сьлясаркі”

**Мікола Сьлясарскі**

Гэта цэлая (хоць і маленькая) краіна — са сваёй гісторыяй, са сваімі законамі, са сваёй унутранай палітыкай і сваімі сілавымі органамі. На яе невялічкай тэрыторыі (пяць паверхаў стандартнай абшарпанай абшчажнай будыніны) пражывае каля 450 чалавек. Лічбавую розьніцу паміж нараджальнасьцю і сьмяротнасьцю вызначыць немагчыма, бо — хоць дзяцей рабіць тутка спробы прадпрымаюцца няспынна і ў розных мейсцах (нават на падваконьніках ва ўмывальнях) — дзеці тут не нараджаюцца. Але бадай толькі сам Бог ведае, колькі іх тутка было зачата. Да мірнай спакойнай старасьці дажываць тутка таксама ніхто не застаецца, бо словы “спакой” і “сьлясарка” — абсалютна неспалучальныя рэчы. Ёсьць, праўда, выключэньні, але іх няшмат, і іхняе зьяўленьне ў гэтай краіне зьвязанае хіба толькі са службовымі абавязкамі і з пошукамі кавалка хлеба штодзённага. Насельніцтва вечназялёнае (гэта значыць: не старэе) і ў абсалютнай сваёй большасьці мае ўзрост ад 18 да 25 год. Кожны год склад жыхарства абнаўляецца, і штогод у цагляных мурах гэтага будынка нараджаюцца, жывуць і забываюцца свае міфы і легенды.

**Легенда першая. Вахцёр №1 усіх часоў і народаў.**

Пост ганаровай варты знаходзіцца на першым паверсе. Стаіць велічны стол-пастамэнт, а па-над ім узвышаецца постаць бабкі-вахцёркі, якая, не раўнуючы сьфінкс ля эгіпецкіх пірамідаў, пагрозьлівым позіркам сустракае любога, хто насьмеліцца наблізіцца да сьвятое сьвятых. Пад мяккае мейсца звычайна падкладваецца мяккая коўдрачка, пад ногі кідаецца маленечкі просьценькі дыванок, каб не цягнула з бэтоннай падлогі, і бесьперапынна працуе чорна-белы тэлевізар з вечнымі сэрыяламі, каб ня так марудна цягнуўся службовы час.

Вахцёраў тры. І ўсе вельмі розныя. І па памерах, і па натуры. Кожная па-рознаму ставіцца да жыхароў і да візіцёраў. Адная, самая вялікая, выклікае ў маладых сэрцах самыя цёплыя пачуцьці. Другая анічога, акрамя агідных думак, не выклікае. А трэцяя, акрамя агідных думак, выклікае яшчэ цэлую кучу іншага кшталту негатыўных эмоцыяў. Пра гэтую трэцюю і пойдзе гаворка.

Яна, бадай, самая легендарная асоба на “сльясарцы”, калі браць



пад увагу колькасьць легендаў, якія пра яе складзеныя. Крый, Божа, маладому, упэўненаму ў сваіх сілах і прагрэсыўнаму духу счапіцца ў сваім натуральным памкненьні аднавіць справядлівасьць з гэтым маленечкім, хваравітым на выгляд, артадоксам. У гэтым дробненькім, сталінскай закваскі, чалавечку хаваецца неверагодная энэргія і няўёмная прага служыць “чэсна”. Самага языкастага адсочыць, падпільнуе, не гледзячы на тое, колькі часу ёй для гэтага можа спатрэбіцца, і ў самы нечаканы для цябе момант выскачыць аднекуль і выкрыкне: “Завтра зайдёш к Марине Михайловне и отчитаешься за всё”. Марына Міхайлаўна — самы галоўны на “сьлясарцы” чалавек. Гэта камендант. І можаш не сумнявацца, што з самага раньняга ранку дакладная на цябе будзе ўжо ляжаць у яе на стале. А там будзе, што ты “...пил, дебоширил, ругался матом, развратничал” і гэтак далей. Каб ня быць галаслоўным, прывяду адзін рэальны прыклад бяз зьменаў:

“У Б... были гости и два парня не вышли до 11. Я поднялась в 11.30 и выгнала их с коридора а девушка пришла в защиту он мне помогал урну вынести.”

Такім чынам і Б..., і “девушка” трапляюць у чорны сьпіс, і наперадзе іх чакае разборка “на ковре” у каменды. Звычайна гэта заканчваецца працяглымі натацыямі, — з дапамогаю якія цябе вучаць (дакладней, ад цябе чакаюць) вінавата апускаць вочы, — і папераджальным крыжыкам у тваёй асабістай справе.

У мяне на самым пачатку майго кватараваньня на “сьлясарцы” было такіх крыжыкаў два. Для высяленьня хапае трох. Але гэта ўжо іншая тэма. Зараз зноў вернемся да гераіні гэтае легенды. Яна, высьвятляецца, нечуваная фантазёрка. Акрамя маляўнічых апісаньняў у дакладных, яна можа прадпрыняць і шэраг іншых ініцыятываў. Скажам, напісаных яшчэ за брэжнеўскімі часамі правілаў пражываньня ў інтэрнаце, што вісяць ля ўвахода, ёй можа здацца замала, і яна ахвотна дапрыдумае штонебудзь яшчэ. Ну, напрыклад, што ня можна пускаць у інтэрнат наведнікаў перад вялікімі сьвятамі, калі амаль уся абшчага разьяжджаецца па дамах. Прышэльцы, на яе думку, могуць заняцца ў апусьцелых калідорах рабаўніцтвам і разбоем, хаця на “сьлясарцы” ўжо каторы год практыкуецца сыстэма, калі па госьця трэба спусьціцца таму, да

каго ён прыйшоў, пакінуць разам зь ягоным свой дакумэнт і несьці пэрсанальную адказнасьць за паводзіны госьця на тэрыторыі лягер.., ой, даруйце, інтэрната. Крый, Божа, прыйсьці госьцю без дакумэнтаў і схібіць, паспрабаваўшы прасіцца прайсьці так...

Дзеля ўласнага псыхічнага здароўя лепш у такі момант зажмурыцца, каб уратавацца ад жахлівага позірку гідры, што ўпіваецца ў цябе з-за таўсьценных акуляраў, і заткнуць вушы, каб ня даць хрыпатай, але на дзіва гучнай, лаянцы параніць сваю годнасьць. Інакш натуральнай вашай рэакцыяй будзе, як гэта ўжо ня раз здаралася, агіднае "псіна", што вырвецца з вашых грудзей і пакіне свой чорны сьлед у вашым настроі да канца дня. Але памятайце, што пад сталом у бабкі ёсьць кнопка, а кнопка гэтая ад званка, што зьвініць, калі што, у пакоі курсантаў акадэміі міліцыі, што жывуць тут жа, на першым паверсе, і маюць хутка прыбыць на дапамогу. Але для адважнай ахоўніцы грамадзкага правапарадку і ўласнай моцы можа хапіць, каб пагнацца за занадта сьмелым госьцем аж да пятага паверха, там аддыхацца, прыслухацца, дзе толькі што бразнулі дзьверы, і з разьбегу высадзіць дзьвярны блок, прагна жадаючы накрыць банду на мейсцы злачынства.

Але вось недарэчнасьць. Старэчы слых можа падвесьці, і пакой можа аказацца пустым, нават без гаспадароў. У такім выпадку гераіня сьпяшаецца прычыніць дзьверы і хуценька змыцца далей ад мейсца здарэньня. Але яна не здагадваецца, што з суседняга пакоя за ёй праз шчыліну пільна назіралі вочы, і навіна хутка абегла ўсе пакоі. Пачаўся збор подпісаў у знак пратэсту супраць перавышэньня сваіх паўнамоцтваў з боку вераломнай вахцёркі. Гэтак нечпадзявана зьявілася такая доўгачаканая магчымасьць пазбавіцца збрыдлай кожнаму жыхару крывасоскі. Подпісы сабралі і прызначылі сход з удзелам самага высокага начальства. Начальства прыйшло, і першым, што яно вымавіла, было: "Ну что? Будзем решать вопрос о ремонте?" Такім чынам, адразу стала ясна, што начальству даражэй: некалькі сотняў студэнтаў, якія на задніх лапках будуць хадзіць, абы толькі атрымаць мейсца у інтэрнаце, ці энтузыяст-вахцёр, замену катораму на мізэрны аклад знайсьці амаль немагчыма. На тым справа і скончылася.

Геройка-вахцёрка да сёньняшняга дня сядзіць і "праяўляе ініцыятыву". Адной з апошніх такіх ініцыятываў была канфіскацыя пратэрмінаванага студэнцкага білета ў былога ін'язаўца, які прыйшоў на "сьлясарку" наведаць сваіх старых сяброў. Альбо яшчэ выпадак.

Позьні вечар. Ужо цёмна. Перагарэлі пробкі, і першы паверх — без сьвятла. Наведнік сьпяшаецца дамоў і хоча забраць свой дакумэнт. А яму ў адказ: "Не буду искать документ без света. Могу перепутать. Ждите или ищите свечку". Калі ласка, не сьпяшайцеся гыркнуць ёй у адказ што-небудзь кшталту "на іншую б патрэбу табе гэную сьвечку". Не дапаможа. Толькі ўпырсьнеце сабе ў кроў лішнюю дозу адрыналіну, а гэта нядобра для вашага здароўя. На ўсе падобныя выбрыкі ў нашай трывалай бабкі ёсьць падрыхтаваная адгаворка: "Марина Михайловна приказала..."

Здараецца, што ўчынкамі прафэсыянала-вартаўніка кіруюць і эканамічныя прынцыпы. Адным з асноўных абавязкаў вахцёра зьяўляецца своечасова перадаваць студэнтам весткі ад сваякоў, што звычайна паступаюць па тэлефоне. Аднак здараецца (гэта, напэўна, залежыць ад настрою вахцёра), сваяк на тым канцы лініі можа пачуць прыкладна наступнае: "Не буду я ничего писать. У меня стержни закончились. Нам, вахтёрам, стержни не выдают. Мы их за свои деньги покупаем". І ўсё. Трубка кладзецца, і размова спыняецца.

Для зручнасьці, каб у кароткай форме спасылацца ў сваіх размовах на пэрліны з практыкі старой авантурысткі, студэнты, шляхам глыбокага псыхалягічнага аналізу, выпрацавалі новы тэрмін. Мы сталі называць яе "фэномэнам сіпатызму", беручы пад увагу галасавыя характарыстыкі сьлясарскага фанатыка правапарадку. Сіпатызм — даволі распаўсюджаная ў нашым грамадстве зьява, калі чалавечак, атрымаўшы найменшую магчымасьць дыктаваць свае ўмовы, уяўляе сябе чалавечышчам. Кампэнсацыя за тое, што нехта некалі доўга камандваў імі. Ходзяць чуткі, што нашая бабка была чатыры разы замужам і ні з адным з мужоў не ўжылася. Можа, менавіта таму яна такая? А можа, не ўжылася, бо такая?

**Міф першы. Грандыёзная падмыўка.**

Быў сьпякотны травеньскі дзянёк. Няшчадна прыпякала сонейка, і на поўную катушку функцыянавалі потавыя залозы "сьлясарнікаў". У гэты дзень усю "сьлясарку" абляцела чутка, што будынак знаходзіцца ў аварыйным стане. Самая добрая вахцёрка па сакрэце, ледзя чутным шэптам, паведаміла адной са студэнтак, што за дзесяцігодзьдзі існаваньня будынку пад падмуркам, з-за рэгулярных закупорак каналізацыйных рыштокаў утварылася цэлае падземнае возера зь нечыстотаў, і будынак можа папросту абрынуцца "ў гаўно" з усімі сваімі асельцамі.

Пачалася паніка. Некаторыя сталі шукаць сабе прытулак на час сэсыйнага марафону. Але абышлося ўсё толькі закрыцьцём душавых на рамонт. Душавыя рамантаваліся да таго рэгулярна. На працягу недзе году то мужчынская, то жаночая па чарзе зачыняліся. Мыліся ўсе ў адной. Мужчыны і жанчыны. Не, не падумайце чаго благога. Распусты не было. Усё адбывалася цывілізавана.

Выстройваліся дзьве чаргі адпаведна . полавай прыналежнасьці. Пакуль мылася прыгожая палова, мужчыны мужна сядзелі на кукішках і чакалі сайго часу. Слова "палова" тут недарэчнае, бо больш за 70% насельніцтва "сьлясаркі" — гэта асобы жаночага полу. І вось гэтыя асобы, карыстаючыся з сваёй колькаснай перавагі, займалі стратэгічна вызначальны пункт на значна большы час. Прычым да іх рэгулярна падыходзілі сьвежыя падмацаваньні. Пасьля масіраванай артпадрыхтоўкі з натрэніраванай умільнай усьмешачкі і стандартнай фразачкі: "Я хуценька", — яны, амаль без супраціву з боку сваіх апанэнтаў, прарываліся за запаветныя дзьверы.

Змучаныя бясконцымі прарывамі сваёй абароны, мужчынская частка праводзіла пасьпешлівую мабілізацыю і наладжвала барыкаду з самага магутнага і нахабнага свайго прадстаўніка Жэні. Жэня таксама выкарыстоўваўся і ў дывэрсыйных апэрацыях. Каб прымусіць да ўцёкаў рэшткі варожых частак, ён засылаўся за запаветныя дзьверы і гучным басам павінен быў праінфармаваць супрацоўніка аб сваім набліжэньні. Аднак, як распавядаў сам Жэня, найбольш трывалыя з жанчын амаль ніяк не рэагавалі на псыхічную атаку аж да ўваходжаньня ў непасрэдны кантакт.



Такім чынам, "сьлясарнікі" прайшлі грунтоўны курс маральнай падрыхтоўкі да закрыцьця душавых. Рамонт працягваўся ажно да лютага наступнага году. Па сутнасьці гэта быў не рамонт, а будаўніцтва новых душавых пад зямлёй, каб даць магчымасьць сьцёкавым водам абмінуць усе магчымыя закупоркі. Будаўнікі працавалі па-стаханаўску. Па-савецку, іншым словам. Было нават і такое, што й уначы сон "сьлясарнікаў" перапыняўся ляскатам адбойных малаткоў. З пачаткам новага навучальнага году студэнты няспынна цікавіліся: "Ну, калі? Калі ўжо адчыняць душавыя?" "Через месяц, — абнадзейвала каменда. — Перед новым годом... Скоро, очень скоро... Душ уже готов, только кабинки строители-халтурщики забыли сделать". Кабінкі рабілі на працягу палутара месяцаў. Найбольш спрытным удавалася выклікаць давер у самай добрай вахцёркі, завесьці блат і тайком, позьнім вечарам мыцца без кабінак. Астатняя частка насельніцтва працягвала цярпліва і маўкліва чакаць, скарыўшыся сваёй горкай долі. Мужчыны па чарзе стаялі ў ганаровай варце ,як піянэры на пляцы Перамогі, ля ўваходаў ва ўмывальні. Жанчыны ставілі на газ тазікі з вадой. Жанчын шмат — і тазікаў шмат. На ўсіх нават камфорак не хапала. Бывала, праўда, што ў трубах зьяўлялася цёплая вада; тады тазікаў на плітах значна менела.

***Працяг будзе***

---

*працяг, пачатак на ст. 4*

нараніцы ўсё пачынаецца спачатку. Адным словам, вясёла.

На жаль, летась на фестывалі беларускае музыкі з Беларусі, акрамя музыкаў — "Крамы", "Новага Неба", "Уліса" ды "Айшы" (Горадня), — з гледачоў былі толькі тры чалавекі: два мае сябры ды я. Лічу, што крывая весялосьці будзе расьці з ростам колькасьці прысутных аматараў рокавага фэстывалю з Беларусі.

Спадарства! Калі вы маеце замежны пашпарт і вольны час напрыканцы ліпеня — пішыце да нас. У выпадку дастатковай колькасьці "дэлегатаў", магчыма будзе замовіць аўтобус. Гэй да Басовішча!

Таму ж хто рызыкне кінуцца ў гэтую авантуру самастойна, даем некалькі парадаў:

– не сьпяшайцеся набіраць з сабою шмат харчу. Польскія каўбасы значна таньней. Затое гарэлка ў іх даражэзная.

- абавязкова бярыця з сабою намёт.

– ехаць лепей праз Гародню. Каля 10 вечара зь Менску адыходзіць цягнік, а 7 раніцы вы будзеце ўжо ў Гародне. Прыкладна а 9 раніцы адтуль ідзе цягнік да Беластоку, а там ужо аўтобусам да Грудку. Ваўчары ў Гародне таньней, чым у Менску. Дарога у адзін бок вам абыйдзецца недзе ў 10 даляраў.

**Дзімка з Пухавіч**

---

## ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ



ЗБС – гэта арганізацыя нацыянальна сьвядомых студэнтаў і аспірантаў. ЗБС бачыць сваімі мэтамі разьвіцьцё і ўмацаваньне дзяржаўнасьці Беларусі, разьвіцьцё нацыянальнай навукі, асьветы і культуры, выхаваньне новага пакаленьня беларускай інтэлегенцы. Зыходзячы з гэтага ЗБС ставіць перад сабой такія задачы як актыўны ўдзел у жыцьці вышэйшай школы, яе рэфармаваньні, накіраваным на паляпшэньне ўмоў, павышэньне ўзроўню і эфэктыўнасьці навучаньня; пашырэньне беларускай мовы ў сфэры адукацыі і навукі; пашырэньне грамадзкай актыўнасьці, нацыянальнай сьвядомасьці; інтэлектуальнага і культурнага ўзроўню студэнтаў; абарону правоў і інтарэсаў студэнтаў; падтрымку маладзёвых плыняў у нацыянальным культурным руху.

# Музычныя клюбы ў Менску



Зразумела, што большасьць маладых іншагародніх ін'язаўцаў пра тусовачныя мейсцы ў Менску, акрамя даражэзных дыскатэкаў кшталту "Paradise" і "Max Show", маюць яшчэ самае слабое ўяўленьне. Аднак — нават і для дасьведчаных — сытуацыя з музычнымі клюбамі зараз здаецца заблытанай. Пазачыняліся папулярныя "Салют" і "Три поросёнка", "Casper", адбылася нейкая незразумелая мэтамарфоза з "Аддис Абебой"; у такі блізкі да ін'язу і вельмі танны "Six Pistols" на Першамайскай 14 прыйшлі хлопцы з "Прамога дзеяньня" і "прапанавалі" гаспадарам працаваць разам. Як вынік, клюб згарнуў сваю дзейнасьць да лепшых часоў. Таму мы вырашылі, што крыху праясьніць сытуацыю зусім не зашкодзіла б.

Стабільна працуюць толькі некалькі клюбаў. **"Резервация"**, бадай самы прыстойны. Ён знаходзіцца па адрасе:
*вул. Бяды, 4. Гэта адразу за ўнівэрсамам "Рыга".* Квіткі каштуюць у межах двух зялёных па курсе. Там вельмі добры гук, стыльны інтэр'ер, ёсьць бар з вельмі памяркоўнымі нацэнкамі. Ахова ажыцьцяўляецца міліцыяй. Часта адбываюцца прэзэнтацыі новых праграм ужо вядомых у Менску гуртоў. Пад гэтым жа дахам месьціцца і дэнс-клюб **"Пирамида"**. Ад восьмай вечара да дванаццай ночы ці, здараецца, з дзясятай вечара і да раніцы тут ракатэкі. Добрыя гаспадары гэтых клюбаў даюць таксама прытулак блудным **"Джунглям"**. Гэта рэгі-клюб, і квіткі сюды крыху даражэйшыя, да 100 тысячаў.

Клюб **"Cosmopolitan"** месьціцца па адрасе:
*вул. Камуністычная, 86; насупраць царквы каля гатэлю "Беларусь".*
Гэта стартавая пляцоўка для ўсіх маладых менскіх гуртоў. Заля невялічкая, ня больш як на 100 чалавек. Наведнікі — пераважна нефармальныя малалеткі. Уваход за кошт аднаго бакса па курсе. Гук так сабе. Інтэр'ер як у сельскіх клюбах. Бару няма, паліць у залі няможна. Найбліжэйшая крама, дзе можна узьняць сабе настрой, — універсам "Старажоўскі" мэтраў за 400. Ахова — адзін міліцыянт. Але затое штотыдня па нядзелях жывыя канцэрты. Граюць звычайна па чатыры гурты. Пачатак а шостай вечара.

Клюб **"Тумблер"** знаходзіцца ў *кінатэатры "Аўрора", побач з гатэлем "Арбіта", метро "Пушкінская".* Агромістая зала, кляснае абсталяваньне, фэйс-кантроль, кошт каля пяці даляраў па курсе. Не часьцей як раз на два тыдні тут ёсьць магчымасьць адарвацца ў шалёным рэйве. Тут жа адбываюцца туры рок-каранацыі з жывымі канцэртамі.

Жывы гук мае мейсца час ад часу і ў клюбе **"Reef"**, што знаходзіцца на *Нямізе, 30.* А так тутка звычайна адбываюцца танцулькі.

Падрыгацца таксама можна і ў **"Пілоце"**, па *Машэрава, 105.* Аграмадная заля.

Самыя разнастайныя акцыі, ад дыскатэк да канцэртаў, арганізуюцца ў **"Аквариуме"** *па Кульман, 14, недалёка ад Камароўкі.* Зразумела, публіка там зьбіраецца таксама вельмі разнастайная. Гук нядрэнны, калі не лічыць неспадзяваных рэха-эфэктаў. Кошты ад 2 да 5 зялёных па курсе. Заля вялікая, са сталкамі, нацэнкі свальваюць з ног.

*Насупраць "Валадаркі"* ёсьць маленечкі падвальчык з шыльдачкай **"Филин's"**. Па вечарох, пасьля дзясятай, там выконваюць джазавыя імправізацыі. А па выходных, здараецца, завітвае рок-н-рольны гурт "Метеор".

**P.S.** Спадарства, прызнайцеся, што ўсе вы ходзіце на розныя музычныя імпрэзы, аб існаванні якіх іншыя і не падазраюць. Падзяліцеся досьведам і вашымі ўражаньнямі праз нашую газэту.

*Дзякуем за дапамогу ў падрыхтоўцы гэтага матэрыялу* ***Максу***

Паседжаньні студэнтаў Лінгвістычнага Унівэрсытэту праходзяць кожную пятніцу ў 17.30 у памяшканьні Таварыства Беларускай Мовы, па адрасу Румянцава, 13 (насупраць МДзЛУ)


Заснавальнікі:
ЗБС ЛУ,
Дзімка з Пухавіч,
Мікола Сьлясарскі,
Лануа Дэво

Мастацкае афармленьне:
Гарыня з Палесься

Паштовая скрынка:
Менск-50, а/с 493

Кантактны тэлефон:
тел. 2 32 69 67

Наклад: 499 ас.